*Інфармацыя Аналітыка Публіцыстыка*

**№30 лістапад 2013**

# ПРЭЗУМПЦЫЯ

***Гарадзенскі праваабарончы інфармацыйна-аналітычны бюлетэнь***

***У беларускай сталіцы па традыцыі адбылося шэсьце ў Курапаты. Удзельнікі акцыі, прымеркаванай да дня паміналньня продкаў Дзяды, сабраліся аб 11-й раніцы каля менскага гадзіньнікавага завода «Прамень» і прайшлі па праспэкце Незалежнасьці, вуліцах Каліноўскага, Сядых, Карбышава, Гамарніка і Мірашнічэнкі да ўрочышча Курапаты, месца расстрэлу і масавага пахаваньня ахвяр сталінскіх рэпрэсіяў, і дзе, паводле розных ацэнак могуць ляжаць ад 30 да 200 тысяч бязьвінна загінулых.***




***Дзяды - сьвята, якое ляжыць сваімі карэньнямі ў далёкай мінуўшчыне, і якое, сёньня, стала не толькі Днём памяці нашых продкаў, але і Днём, калі нашчадкі абяцаюць адрадзіць усё тое, за што змагаліся іх славутыя прашчуры. Адрадзіць нашу Бацькаўшчыну, нашу Беларускую мову, наш Сьвяты Беларускі Бел-Чырвона-Белы Сьцяг, нашу гісторыю і культуру, нашы традыцыі і славу ды веліч нашага Беларускага Народу.***

## Гародня: судовая “сцяна” пакуль непрабівальная

У Гарадзенскім абласным судзе прайшоў разгляд касацыйнай скаргі грамадскіх праваабаронцаў Віктара Сазонава, Уладзіміра Хільмановіча і Рамана Юргеля на рашэнне суда Ленінскага раёну Гародні па адмове гарвыканкамам правесці пікет у падтрымку Алеся Бяляцкага 4 жніўня. 23 верасня бягучага году суддзя Ленінскага раённага суда Жана Краўчанка, нягледзячы на відавочныя парушэнні з боку чыноўнікаў, вызначыла, што гарвыканкам зрабіў усё законна. Грамадскія праваабаронцы катэгарычна нязгодныя з такой пастановай суду першай інстанцыі, таму імкнуцца дамагчыся законнасці.



Калегія абласнога суда доўга разглядала розныя касацыйныя скаргі па іншых грамадзянскіх справах, пакінуўшы скаргу праваабаронцаў на заканчэнне, калі ў судовай залі не засталося выпадковых людзей. У выніку калегія на чале з суддзёй Людмілай Малючок і ў прысутнасці пракурора пакінула рашэнне раённага суда нязменным.

Сітуацыю каментуе Уладзімір Хільмановіч: “Цяперашнія суддзі – гэта дастаткова юрыдычна разумныя, адукаваныя людзі. Яны цудоўна ўсведамляюць, што законнасць на нашым баку, што склалася абсурдная сітуацыя, калі грамадзяне не могуць рэалізаваць свае канстытуцыйныя правы, што чыноўнікі выканкаму здзяйсняюць парушэнні дзейснага заканадаўства і дыскрымінуюць нас у правах. Аднак, з-за “вышэйшых” палітычных рашэнняў уладных структураў судовая “сцяна” застаецца непрабівальнай”.

## Гарадзенскія праваабаронцы супраць дыскрымінацыі

Гарадзенскія грамадскія праваабаронцы Віктар Сазонаў, Уладзімір Хільмановіч, Раман Юргель падалі ў суд Ленінскага раёна Гародні чарговую скаргу на рашэнне Гарадзенскага гарвыканкаму ад 4 кастрычніка за подпісам намесніцы старшыні мясцовай вертыкалі Алены Агей, якім было забаронена правядзенне інфармацыйнага пікету 10 кастрычніка бягучага году. У Сусветны дзень змагання супраць смяротнага пакарання праваабаронцы хацелі інфармаваць насельніцтва пра сітуацыю са смяротным пакараннем у свеце і ў Беларусі і патрабаваць адмены смяротнага пакарання ў краіне. Гарвыканкам, на думку заяўнікаў, парушыў іх канстытуцыйныя правы, прычым выставіў абсурдныя прычыны адмовы.

Гарадзенскі гарвыканкам на думку праваабаронцаў выявіў бюракратызм, заявіўшы ў сваім афіцыйным адказе, што яны былі абавязаны паведаміць пісьмова ў сваёй заяве, ці будзе масавае мерапрыемства праводзіцца з выкарыстаннем піратэхнічных вырабаў і адкрытага агню. Заяўнікі лічаць, што мусілі б паведамляць пра выкарыстанне піратэхнічных вырабаў і адкрытага агню толькі ў выпадку, калі б гэта прадугледжвалася.

Віктар Сазонаў, Уладзімір Хільмановіч, Раман Юргель таксама перакананыя, што гарвыканкам беспадстаўна, а значыць незаконна вырашыў, што яны не змогуць “в должной мере соблюсти необходимые требования действующего законодательства Республики Беларусь по обеспечению безопасных условий проведения заявленного массового мероприятия и наведения порядка по его окончании”. На чым грунтавалася такая выснова застаецца незразумелым.

4-га ж лістапада ў гарадзенскім абласным судзе адбудзецца разгляд іншай скаргі гэтых жа праваабаронцаў на рашэнне суда Ленінскага раёну Гародні па адмове гарвыканкамам праводзіць пікет у падтрымку Алеся Бяляцкага 4 жніўня. 23 верасня суддзя раённага суда Жана Краўчанка прадказальна ўзяла бок чыноўнікаў, нягледзячы на відавочныя парушэнні з іх боку.

## Алесь Бяляцкі адбыў за кратамі палову тэрміну зняволення

Палітзняволены кіраўнік праваабарончага цэнтра "Вясна"Алесь Бяляцкі адбыў за кратамі палову тэрміну зняволення. Пра гэтую сумную дату ён узгадаў у сваім апошнім лісце да жонкі Наталлі Пінчук.



Наталля Пінчук:

- Згадвае пра пэўныя перыяды свайго жыцця, пэўныя даты ў календары. Зразумела, што гэтыя даты не супадаюць з «чырвонымі» датамі ў звычайным календары. Гэта даты яго, гэта даты нашай сям'і, на жаль, сумныя. ¨н піша, што надыходзіць лістапад, самы цёмны, сумны месяц. Адзінае, што ў ім можна адзначыць 4 лістапада – гэта як раз палова тэрміну знаходжання за кратамі.

Алесь Бяляцкі арыштаваны 4 жніўня 2011 года. Асуджаны на 4 гады і 6 месяцаў зняволення па артыкуле крымінальнага кодэксу аб утойванні прыбыткаў у асабліва буйным памеры. Але, як лічаць праваабаронцы, яго віна не даказана. За асабістыя прыбыткі следства і абвінавачванне выдала сродкі, якія прызначаліся на дапамогу пацярпелым ад рэпрэсій, а не належалі Бяляцкаму.

# Пажыццёвае зняволенне

***Пакуль праваабаронцы ўсёй Беларусі няспынна змагаюцца за адмену смяротнага пакарання, ёсць значная групоўка надзвычай уплывовых людзей, якія ўжо даўно выступілі за пажыццёвае зняволенне. І выбралі яго найперш для сябе. Гэта асаблівы тып самапакарання – зняволенне выбранае для сябе. Зняволенне ўладай. Зняволенне, ад якога не вызваліць ніхто і нішто.***

Днямі аўтарытэтны амерыканскі часопіс “Forbes” назваў кіраўніка Расіі Уладзіміра Пуціна найбольш уплывовым чалавекам свету. Трэба меркаваць, гэта вяршыня яго палітычнай і чалавечай кар’еры, такое ўганараванне надзвычай задаволіць маскоўскага ўладара, у гэтым няма сумневу. Уладзімір Пуцін ужо выйграў для сябе чэмпіянат свету па футболе, выйграў для сябе алімпійскія гульні, цяпер вось такое прызнанне. Выбар “Forbes”, дарэчы, падаецца слушным. Ну сапраўды, хіба можа амерыканскі прэзідэнт Барак Абама быць на вяршыні гэтага рэйтынгу!? Трапіўшы на вышэйшую пасаду сваёй краіны, дэмакрат па партыйнай прыналежнасці і сацыяліст па светаглядзе Абама проста мучыцца, такое ўражанне, што цэлы час у разгубленасці і не ведае, што рабіць у няпростых варунках і выкліках рэчаіснасці. Перыяд яго кіравання – гэта такі амерыканскі “брэжнеўскі застой”. Але дакладна вядома, што Абама праз два гады адмучыцца і будзе сядзець дзе-небудзь на сваёй віле ці ранча. У горшым разе перажыве можа пару якіх дробных непрыемных судовых працэсаў. А яшчэ праз пяць гадоў пра яго ўсе забудуцца, зрэдку ўспамінаючы перыяд кіравання афраамерыканца. Іншая рэч Уладзімір Пуцін – само ўвасабленне ўпэўненасці, непахіснасці і перакананасці. Але бяда ў тым, што далей няма куды, далей толькі расчараванні. Толькі ўніз, толькі ў яшчэ большую кабальную залежнасць ад сваёй бязмежнай улады, ад неразвязальнасці тых праблемаў, што нібы снежная лавіна абрынаюцца і будуць абрынацца на шматнацыянальную расійскую імперыю.



Цяжкае гэта бярэмя – кіраваць пажыццёва. У тых, хто зняволены ў турмах Азербайджана, Беларусі, Узбекістана, Расіі, Туркменістана, Казахстана па палітычных матывах, ёсць надзея выжыць фізічна і выйсці на волю, ёсць цвёрдае перакананне, што іх імёны застануцца ў гісторыі сваіх народаў як прыклад ахвярнасці і сумленнасці, ёсць маральная і іншая падтрымка аднадумцаў і блізкіх. А вось у кіраўнікоў гэтых таталітарных дзяржаваў надзеі няма ніякай. Альбо трыбунал у Гаазе, альбо фатальнае кіраванне да канца дзён сваіх – і там і там пажыццёвае зняволенне, як не круці. І скажыце цяпер – ці хто з вас хацеў бы апынуцца на іх месцы?! Не дай Бог, як кажуць. Золата і мармур, валютныя рахункі ў розных банках свету, шыкоўныя дываны, скураныя канапы, раскошныя палацы і суперсамалёты, квадратнатварыя дзецюкі ў ахове, паслужлівыя лёкаі ў працоўных кабінетах і рэзідэнцыях, даўганогія маладыя прыгажуні ў атачэнні – гэта ж толькі адзін бок уладарнага медаля. А з іншага – “крывавыя хлопчыкі” уваччу па начах, усюды мрояцца змовы і здрады, снайперы на даху, бесперапынны галаўны боль па сваіх незлічоных скарбах і багаццях. Няма ні радасці сяброўскай бяседы, бо сяброў няма, ні водару лесу, бо на прыроду нельга, ні радасці сонечнаму дню, бо яны перакана624ныя, што гэта яны і ёсць сонца для сваіх народаў. А тут яшчэ нашчадкі, родныя дзеткі, падкідваюць праблемаў раз-пораз, як, прыкладам, дачка узурпатара Узбекістана Іслама Карымава…

У такім жа пажыццёвым зняволенні не толькі першыя асобы дыктатарскіх дзяржаваў, але і іх бліжэйшыя памочнікі, выканаўцы іх волі, тыя, хто мог бы не ўдзельнічаць у гэтым, але паддаўся спакусе ўлады і багаццяў. Яны таксама да канца сваіх дзён будуць у страху, страх – іх галоўны жыццёвы спадарожнік, ён паралізуе іх волю і чалавечыя якасці. Страх, бо ўсё патаемнае рана ці позна стане вядомым і відавочным.

Мне іх шчыра шкада, асудзіўшых самых сябе на пажыццёвае зняволенне, тых, хто мог бы прынесці славу, гонар і дабрабыт свайму народу, а застануцца ў гісторыі і людской памяці найперш сваімі чорнымі справамі і злачынствамі ўчынкамі.

***Уладзімір Хільмановіч***

## Маніторынгавая справаздача па выніках назірання за ходам масавага мерапрыемства "Дзяды - 2013"

3-га лістапада 2013 г. у Мінску прайшла традыцыйная акцыя ўшанавання продкаў "Дзяды-2013". Па даступным у інтэрнэце адказе з Мінгарвыканкама за 29.10.2013 г. №3/1-3/1568 быў атрыманы дазвол на правядзенне шэсця па наступным маршруце: 10.30 – збор удзельнікаў мерапрыемства на пляцоўцы перад будынкам ААТ "Мінскі гадзіннікавы завод" (пр.Незалежнасці, 95). 11.00-14.30 – шэсце па ходніках па маршруце: ААТ "Мінскі гадзіннікавы завод" – пр-т Незалежнасці – вул. Каліноўскага – вул.Сядых – вул.-Карбышава – вул. Гамарніка - вул.Мірашнічэнкі – Мінская кальцавая аўтамабільная дарога (падземны пешаходны пераход пад МКАД да ўрочышча Курапаты). Дадзенае масавае мерапрыемства прайшло па пазначаным маршруце.




Арганізатарам масавага мерапрыемства выступала Кансерватыўна-Хрысціянская Партыя - БНФ. Тэкст заявак на правядзенне шэсця і мітынгу, а таксама адказу на заяўку на правядзенне мітынгу арганізатары назіральнікам не прадставілі.

Па ініцыятыве РПГА "Беларускі Хельсінкскі Камітэт" і Праваабарончага цэнтра "Вясна" з мэтай аб'ектыўнай ацэнкі характару сходу, а таксама фіксацыі магчымых парушэнняў правоў чалавека падчас мерапрыемства праводзіўся маніторынг. Група назіральнікаў складалася з 15 чалавек, якія запаўнялі ўніфікаваныя карты назірання. Паводле інфармацыі з гэтых картаў (пазначаных там фактаў) быў зафіксаваны ход масавага мерапрыемства, дзеянні супрацоўнікаў праваахоўных органаў і ўдзельнікаў. У дадзенай справаздачы абазначаныя асобныя аспекты вынікаў назірання, аналіз адпаведнасці масавага мерапрыемства міжнародным стандартам у галіне свабоды мірных сходаў, а таксама рэкамендацыі для прадстаўнікоў дзяржаўных органаў і арганізатараў.

I. Высновы:

Можам адзначыць мірны характар масавага мерапрыемства (калі "арганізатары маюць мірныя намеры і сход мае негвалтоўны характар") цягам усяго сходу, арганізатары і ўдзельнікі не парушалі заканадаўства.

Асаблівую занепакоенасць выклікае немагчымасць ідэнтыфікаваць супрацоўнікаў праваахоўных органаў як такіх праз адсутнасць форменнай вопраткі, а таксама адсутнасць ідэнтыфікацыйных картак на супрацоўніках у форме.

На падставе дадзеных, якімі валодаюць назіральнікі, можам меркаваць пра адвольны характар затрымання і зняволення ўдзельніка акцыі Юрыя Рубцова.

Да таго ж варта адзначыць, што рэгуляванне парадку правядзення масавых сходаў у Беларусі, замацаванае Законам "Аб масавых мерапрыемствах у Рэспубліцы Беларусь" ад 30 снежня 1997 года (у рэдакцыі ад 08.11.2011), супярэчыць міжнародным стандартам. У сумесным заключэнні Венецыянскай камісіі і БДІПЧ/АБСЕ (CDL-AD (2012) 006) адзначана: "Закон аб масавых мерапрыемствах характарызуецца падрабязным празмерным рэгуляваннем працэдурных аспектаў правядзення сходаў. Закон стварае складаную працэдуру захавання жорсткай і працаёмкай працэдуры атрымання дазволу, у той жа час пакідаючы большую свабоду дзеянняў адміністрацыйным органам для прымянення Закона. Гэтая працэдура не адлюстроўвае пазітыўнае абавязацельства дзяржавы забяспечваць і заахвочваць ажыццяўленне права на свабоду мірных сходаў і на свабоду выказвання меркаванняў". Акрамя таго, Камітэт па правах чалавека ААН неаднаразова зафіксаваў парушэнні з боку Беларусі права на свабоду мірных сходаў[1].

II. Ход масавага мерапрыемства

Падчас масавага мерапрыемства былі зафіксаваныя наступныя факты:

- пры заяўленай колькасці ўдзельнікаў да 5000 назіральнікі налічылі ад 370 да 470 чалавек у розныя перыяды мерапрыемства;
- час мерапрыемства адпавядаў дазволенай Мінгарвыканкамам працягласці;
- падчас працы назіральнікаў меліся перашкоды да назірання ў падземным пераходзе перад пачаткам шэсця: двойчы супрацоўнік міліцыі ў форме без ідэнтыфікацыйнага бэйджа забараніў назіральнікам знаходзіцца ў падземным пераходзе. Афіцыйная падстава – забарона на згуртаванне людзей на аб'ектах метрапалітэна. Прадстаўніцца супрацоўнік міліцыі адмовіўся. Пры гэтым перашкодаў у патрапленні на месца збору і непасрэдна масавага мерапрыемства не зафіксавана;
- факты абмежаванняў у працы СМІ з боку супрацоўнікаў міліцыі не зафіксаваныя;
- арганізатары былі абазначаныя бэйджамі і нарукаўнымі павязкамі;
- заклікаў да гвалтоўных дзеянняў з боку ўдзельнікаў не зафікса-

вана;

- удзельнікі выкарыстоўвалі наступныя плакаты і транспаранты: “Дзяды”, “Дзякуй продкам за мову”, “Ушануйма ахвяраў Курапатаў”, “Малады Фронт”, “Беларуская салідарнасьць - адказ расейскаму імперыялізму”, “Беларуская салідарнасьць - наш супраціў расейскай акупацыі”, “Кансерватыўна-Хрысціянская Партыя БНФ/ Партыя БНФ”, “Не умееш работать - лови уток”, “Хочешь на запад - плати 100 $ /Не хочешь работать - плати налог/ Хочешь на восток - плати 100 миллионов”, “25 гадоў Беларускаму Народнаму Фронту "Адраджэньне" 19.10.88 - 19.10.2013”, “Партыя абароны народных інтарэсаў Партыя БНФ”; удзельнікі таксама выкарыстоўвалі бела-чырвона-белыя сцягі, сімволіку Кансерватыўна-Хрысціянскай Партыі - БНФ, Маладога Фронту, Маладой Беларусі, Беларускай сацыял-дэмакратычнай партыі, Беларускай Хрысціянскай Дэмакратыі, Манархічнай Лігі ВКЛ;

- ужываліся лозунгі: “Жыве Беларусь”, “Разнясецца гучным гоманам - слава нацыі, смерць ворагам”, “Беларусь будзе вольнай”, а таксама спяваліся песні;

- заклікі да гвалтоўных дзеянняў, агрэсіўныя паводзіны ўдзельнікаў зафіксаваныя не былі;

- удзельнікі падпарадкоўваліся патрабаванням арганізатараў і супрацоўнікам праваахоўных органаў;

- сярод прадстаўнікоў органаў аховы правапарадку былі заўважаныя: асобы ў форме з надпісам “міліцыя” – да 10 чалавек, супрацоўнікі “ДАІ” – да 20, супрацоўнікі міліцыі з надпісам “АМАП” – 6 чалавек, супрацоўнікі міліцыі ў цывільнай вопратцы (з навушнікамі, мікрафонамі, відэакамерамі, рацыямі) – да 70 чалавек;

- супрацоўнікі міліцыі ў форме мелі пры сабе гумовыя палкі, кайданкі, сродкі сувязі;

- факты прэвентыўнага затрымання не зафіксаваныя;

- супрацоўнікі ДАІ спрыялі праходу калоны па ходніках, але не перакрывалі рух транспарту на святлафорах па ходу шэсця, што падзяляла калону ўдзельнікаў на некалькі частак;

- падчас масавага мерапрыемства супрацоўнікі міліцыі не ўжывалі фізічную сілу, але меў месца факт затрымання Юрыя Рубцова пасля сканчэння акцыі без відавочных на тое падставаў;

- кантакт з супрацоўнікамі праваахоўных органаў не быў наладжаны ў выніку адсутнасці абазначанай адказнай асобы з іх ліку;

- машына хуткай медыцынскай дапамогі не суправаджала масавае мерапрыемства.

III. Рэкамендацыі

Арганізатарам:

прадстаўляць у публічны доступ копіі заяў на правядзенне масавага мерапрыемства і адказы дзяржаўных органаў. Дадзеная мера дазволіць грамадзянам азнаёміцца з практыкай рэгулявання свабоды сходаў дзяржаўнымі органамі, а таксама падобнае паведамленне дасць магчымасць грамадзянам, якія не ўдзельнічаюць у сходзе, пазбегнуць магчымых нязручнасцяў;

Супрацоўнікам праваахоўных органаў:

пры руху калоны праз скрыжаванні супрацоўнікам дзяржаўнай аўтаінспекцыі прыпыняць рух транспарту на час, неабходны для праходу ўсёй калоны дэманстрантаў.

у адпаведнасці з арт.5 Закона Рэспублікі Беларусь "Аб органах унутраных спраў", "дзейнасць органаў унутраных спраў з'яўляецца галоснай". Кіруючыся гэтай нормай, лічым, што ўсе супрацоўнікі павінны ажыццяўляць ахову грамадскага парадку падчас масавых мерапрыемстваў у форменнай вопратцы, а таксама быць пазначанымі ідэнтыфікацыйнымі карткамі (бэйджамі).

абазначыць кантактную асобу з ліку супрацоўнікаў міліцыі для камунікацыі ў выпадку патрэбаў з назіральнікамі, СМІ і арганізатарамі масавага мерапрыемства.

Суб’ектам, якія валодаюць правам заканадаўчай ініцыятывы:

ініцыяваць змены ў беларускае заканадаўства з мэтай прывядзення ў адпаведнасць з міжнароднымі стандартамі ў галіне мірных сходаў.

## Кіраўнікі дыпламатычных місій краін ЕС наведалі Курапаты і Трасцянец

5-га лістапада кіраўнікі размешчаных у Мінску дыпламатычных місій краін Еўрапейскага Саюза, а таксама Часовы паверaны ў справах Злучаных Штатаў Амерыкі ў Рэспубліцы Беларусь, наведалі Курапаты і Трасцянец, масавыя магілы ахвяраў таталітарных рэжымаў дваццатага стагоддзя.



Дыпламаты традыцыйна наведваюць гэтыя месцы з нагоды Дзядоў, Дня памінання продкаў, каб аддаць даніну павагі памяці ахвяраў.

У Курапатах дыпламаты ўсклалі кветкі ля мемарыяльных знакаў, у тым ліку ля Крыжа памяці і на пагорку каля валуна, якім пазначана месца, абранае ўрадам Беларусі для ўзвядзення мемарыяла, які ўвекавечыў бы памяць пра трагічныя лёсы людзей, забітых і пахаваных тут.

# Паводле Высоцкага

***Здавалася, што ўжо ўсе стаміліся, і стаміліся ад усяго. Грамадзкая актыўнасць зрабіла выгляд, што пайшла ў глыбокае падполле, прычым нейдзе далёка за межы Беларусі. Нават свята прысвечанае памяці паўстанцаў 1863-га году, якім па ўжо дваццацігадовай традыцыі нацыянальна свядомыя актывісты Гарадзеншчыны пачынаюць "Дзяды", атрымалася даволі малалюдным. Хоць і дата была юбілейная, і на пачатку года ўплывовыя арганізацыі ды вядомыя постаці цэлы аргкамітэт зляпалі з распісаным планам актыўных дзеянняў на ўвесь юбілейны тэрмін. І трэба адааць ім належнае – план быў не кепскі.***

Але масавасьць не атрымалася ні з боку актыўнага грамадства, ні з боку самых аргкамітэччыкаў. І калі з грамадзтвам усё зразумела, ім, як спяваў класік, важака не хапала, то з важакамі справа загадкавая. Не з усімі канечна. Тойсёй быў. Але ж дата якая! Сто пяцьдзесят гадоў з моманту магутнага ўсплеску нацыянальнага адраджэння. У такі юбілей колькасць лідэраў, якая вызначаецца лічбай тойсёй, гэта замала.

Вось і здавалася, што ўсе стаміліся. Моцна стаміліся. Бо не толькі Дзень памяці паўстанцаў не наведалі масава рэспубліканскія знакамітасці, як у выбарчыя гады гэта рабілі, але і іншыя мерапрыемствы ладзяць зараз ледзьве не адзінкавыя людзі. Сіратліва так глядзяцца тыя мерапрыемствы. Як жарабятка, што адбілася ад маці.

Ды вось не ў стомленасці аказваецца справа. Бо як толькі гаворка заходзіць пра маючыя адбыцца выбары ў мясцовыя саветы, актыўнасць цэлага шэрагу і асоб, і арганізацый, пачынае зашкальваць. Ужо і блокаў нарабілі, і планаў набудавалі, і прычыны прыдумалі чаму і на гэты раз апазіцыя прайграе.

Галоўнай прычынай ужо агучваецца раз'яднанасць апазіцыі. Толькі вось аніяк не магу ўцяміць хто яе раз'яднаў. Бо нідзе і ні ад каго я не чуў, і нідзе не чытаў, што дэмакратычная кааліцыя самараспусцілася. Ці яксьці па іншаму развалілася. Пачынаючы ад знакамітай "Пяцёркі плюс" і заканчываючы "Дзесяткай", ніхто не паведаміў, што аб'яднаныя дэмакратычныя сілы нехта пакідае. Усе толькі далучаліся да іх. І вось, раптам, аказалася, што на рэштках




некалі аб'яднанай апазіцыі ўжо створаныя новыя блокі. І левыя, і правыя, і пасярэдзіне хапае. Сам чорт не разбярэцца. Без дапамогі спецслужб неразбярэцца. А з дапамогай – лёгка. Тыя ва ўсім разбіраюцца.

Неясным застаецца толькі адна вельмі важная дэталь – хто гэта такі башкавіты аўтар падобнага сцэнару. Бо геніяльнасць гэтага аўтара, ці аўтараў у множным ліку, аж настолькі вялікая, што простыя смяротныя аніяк не могуць дапетрыць, за што цяпер змагацца будзем.

Вось палітычныя сцэнары пачатку 90-х былі больш зразумелымі – Беларусь, воля, незалежнасць, беларусізацыя, годнасць… Прынцыпы простыя, даступныя для разумення ўсім, і ўсім адразу ясна, хто за што змагаецца і пад якімі сцягамі стаіць. Ды і хто сцэнар пісаў было вядома. Тады хто б ні пісаў сцэнар, той сам быў і рэжысёрам і нават акторам. Можа таму і іншыя прыходзілі не толькі паўзіраццa, але і непасрэдна паўдзельнічаць. Бо яны таксама лічылі, што гэта і іх сцэнар ў пэўнай меры, і іх пастаноўка. Хіба таму і поспех быў такі, які быў. Незалежнасць тады адваявалі. І іншыя рэчы, пра якія і абвяшчалі – Беларусь, воля, беларусізацыя, годнасць…

Ды вось пасля з'явіліся людзі з разумнымі тварамі і сталі павучаць. Казалі, што такі панятак як, прыкладам, беларусізацыя, не ўсім даходзіць. Трэба з людзямі гаварыць пра каўбасу. Вось і па сённяшні дзень пра каўбасу гаворка не сканчаецца. То ў выглядзе замежных інвестыцый тая каўбаса, то ў выглядзе крэдытаў. А знайшліся і тыя, хто паабяцаў яе ў выглядзе таннага расійскага газу.

Здавалася б, ужо дурню ясна, што пара вярнуцца да таго, што спрацоўвала. Да тых каштоўнасцяў, за якімі і ішла актыўная частка грамадства. Дурню то зразумела. Але няма ўжо дурных сярод сённяшняй эліты. Ну а шырокая грамадзкасць па ранейшаму стаіць на сваім. Не зракаюцца слоў Валодзі Высоцкага: "Не зрабілі мы скандала, важака нам не хапала… Бо сапраўдных буйных мала, і няма, вось, важакоў…"

*Віктар Сазонаў*

# Каляндар памятных і круглых датаў Гарадзеншчыны на снежань 2013 году

**4 сьнежня**
*210 гадоў таму (1803) – Памёр Давыд Пільхоўскі, асьветнік, пісьменьнік, перакладнік, выдавец. Часта бываў на Навагрудчыне, калі працаваў інспэктарам навучальных установаў.*

**5 сьнежня**
*220 гадоў таму (1793) – На Гарадзенскім сойме была прынятая Канстытуцыя Рэчы Паспалітай.*

**7 сьнежня**
*150 гадоў таму (1863) – Памёр Ануфры Петрашкевіч (нарадзіўся 220 гадоў таму – у 1793 у Шчучыне), філамат, паэт, архівіст, удзельнік паўстаньня 1831.*
*135 гадоў таму (1878) – У в. Навасады (Ашмянскі р-н) нарадзіўся Андрэй Зязюля (сапраўднае Аляксандар Астрамовіч), беларускі каталіцкі сьвятар, паэт.*
*70 гадоў таму (1943) – У Менску невядомымі забіты Вацлаў Іваноўскі, беларускі грамадзка-палітычны дзеяч, адзін з стваральнікаў Грамады, асьветнік, выдавец, міністар асьветы ў Радзе БНР. Нараджэнец м. Лябёдка (Шчучынскі р-н). Пахаваны ў Менску на Кальварыйскіх могілках.*



**9 сьнежня**
*745 гадоў таму (1268) – Забіты Войшалк (нар. у 1223), князь Навагрудскі, вялікі князь ВКЛ (1263-67).*
*40 гадоў таму (1973) – У Вільні памёр Янка Шутовіч, беларускі грамадзка-культурны дзеяч, выдавец, літаратуразнавец, вязень савецкіх канцлягероў. Нараджэнец в. Шутавічы (Смургонскі р-н). Пахаваны ў Павільнісе.*

**10 сьнежня**
*125 гадоў таму (1888) – У Гарадку (на Беласточчыне) нарадзіўся Мікола Дзямідаў, вайсковы, грамадзка-палітычны дзеяч; у 1943 акруговы школьны інспектар, арганізатар батальёну беларускай самааховы ў Лідзе.*
*100 гадоў таму (1913) – У в. Лабна (Лабно, Гарадзенскі р-н) нарадзіўся Вацлаў Гебельт, шахматны кампазіст, вязень ГУЛАГу, пасьля вызваленьня ў 1949 жыў да сьмерці ў Лідзе.*

**22 сьнежня**
*215 гадоў таму (1798) – У Вільні памёр Джузэпэ Сака (нар. у 1735 у Вероне), італійскі архітэктар, які працаваў на Віленшчыне і Гарадзеншчыне. Пахаваны ў Гародні на старых каталіцкіх могілках (паводле іншых зьвестак у сваім маёнтку Дубасьня пад Беластокам).*

**23 сьнежня**
*95 гадоў таму (1918) – Памёр Лейб Найдус, габрэйскі паэт, перакладнік. Быў пахаваны ў Гародні на габрэйскіх могілках (цяпер на іх месцы стадыён "Нёман").*

**24 сьнежня**
*215 гадоў таму (1798) – На хутары Завосьсе (верагодней усяго Навагрудзкі р-н) нарадзіўся Адам Міцкевіч, польска-беларускі паэт, асьветнік, філамат.*

**25 сьнежня**
*Раство (Каляды) паводле грыгарыянскага календара.*
*15 гадоў таму (1998) – Адбыўся першы перапіс насельніцтва незалежнай Беларусі (насельніцтва склала 10.045.200 чалавек (зь іх 8.159.100 – беларусаў). Беларускую мову роднай назвалі 73,7% жыхароў краіны.*

**26 сьнежня**
*35 гадоў таму (1978) – У Лондане памёр Вінцук Адважны (сапраўднае Язэп Германовіч), беларускі каталіцкі сьвятар, пісьменьнік, паэт, эмігрант (Італія, Вялікабрытанія). Пахаваны на могілках Сэн-Панкрас.*

**27 сьнежня**
*95 гадоў таму (1918) – Рада БНР на чале з Антонам Луцкевічам пераехала ў Гародню.*

**28 сьнежня**
*425 гадоў таму (1588) – Гародня згодна з пастановай Кракаўскага сойму стала цэнтрам каралеўскай эканоміі (была ім ажно да 1795).*
*105 гадоў таму (1908) – Каля Гудагая (Астравецкі р-н) быў зафіксаваны землятрус моцнасцю 6-7 балаў па шкале Рыхтара.*
*25 гадоў таму (1988) – У ЗША памёр Аляксандар Стагановіч, беларускі грамадзка-палітычны дзеяч, удзельнік БНС, эмігрант (Нямеччына, ЗША). Пахаваны на беларускіх могілках у Нью-Брансьвіку (ЗША). Нараджэнец в. Нясутычы (Навагрудзкі р-н).*

*Кожны аўторак у эфіры незалежнай радыёстанцыі "Радыё Рацыя" - праграма "Людзьмі звацца!", якая асвятляе падзеі, датычныя правоў чалавека на Беларусі. Час выхаду ў эфір – 15-05 (паўтор - серада 0:05-1:00 і субота 7:05-8:05). Таксама ў гэты час яе можна слухаць праз інтэрнэт на сайце*

**www.racyja.com**

*Больш падрабязную праваабарончую інфармацыю па ўсёй Беларусі вы можаце атрымаць на сайце*

**www. spring96.org**




*На сайце*

**www.palitviazni.info**

*вы таксама можаце атрымаць інфармацыю пра палітычных зняволеных у Беларусі*

*Больш падрабязную праваабарончую інфармацыю па Гарадзеншчыне вы можаце атрымаць на сайце*

**www.harodniaspring.org**



*Праваабарончая інфармацыя з іншых рэгіёнаў Беларусі:*

**Берасце - www.brestspring.org**
**Віцебск - www.vitebskspring.org**
**Гомель - www.gomelspring.org**
**Магілёў - www.mahilyowspring.org**

Гарадзенскі праваабарончы
інфармацыйна-аналітычны
бюлетэнь «Прэзумпцыя»
выходзіць 1 раз у месяц
наклад 299 асобнікаў
для нутранога карыстаньня

падрыхтаваны да друку:
лістапад 2013
e-mail:prezumpcyja@gmail.com
распаўсюджваецца задарма
пры перадруку спасылка
абавязковая

